

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.*

# наша СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання** **№ 13 (117) 27 сакавіка 2024 г.**

# З Вялікаднем, шаноўныя беларусы!

## Першая грамадзянка Рэспублікі Беларусь у космасе



23 сакавіка на Міжнародную касмічную станцыю з касмадрома Байканур адправіўся экіпаж 21-й экспедыцыі наведвання ў складзе касманаўта "Раскосмасу" Алега Навіцкага, удзельніцы касмічнага палёту беларускі Марыны Васілеўскай і астранаўта НАСА Трэйсі Дайсан.

Першапачаткова старт быў прызначаны на 21 сакавіка, аднак быў адменены з прычыны няштатнай сітуацыі.

Марына Васілеўская - першая грамадзянка незалежнай Беларусі, якая паляцела ў космас, і пятая этнічная беларуска ў космасе пасля Церашковай, Клімука, Кавалёнка і Навіцкага.

Вяртанне Алега Навіцкага, Марыны Васілеўскай, а таксама астранаўта НАСА Лорал О'Хара, якая зараз знаходзіцца на МКС, запланавана на 6 красавіка.

*БелТА.*




## Вербніца



*Эдуард Акулін*

### Вербніца

Вербніца! Вербніца!
Крочу на імшу...
Верыцца - вернецца
Вера у душу!
Вербніца! Вербніца!
Вербная нядзеля!
Верыцца - вернецца
у душу Надзея!
Вербніца! Вербніца!
Свята родных слоў!
Верыцца - вернецца
у душу Любоў!
Вербніца! Вербніца!
Плачу і малю...
Верыцца - вернецца
Госпад на Зямлю!
*24 сакавіка 2024 г.*
*14:00.*







# Брукаванае слова Петруся Граніта

Сусветны дзень паэзіі ўрачыста адзначылі ў Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея. На мерапрыемства завіталі аматары і майстры мастацкага слова, сябры літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце". Менавіта да гэтага дня супрацоўнікі дома-музея адкрылі выстаўку "Брукаванае слова", якую прысвяцілі заходнебеларускаму паэту Петрусю Граніту. Напрыканцы студзеня яму споўнілася б 115 год з дня нараджэння.

Трэба зазначыць, што ў пачатку лютага тут была адкрыта выстаўка "У дом твой сцежка прывяла сама…", што была прысвечана Валянціну Таўлаю, якому творчая інтэлігенцыя адзначыла таксама юбілей - 110 год з дня нараджэння. І таму першынство ў святкаванні юбілейных дат было дадзена паэту, які жыў у гэтым доме.

Выстава "Брукаванае слова" адразу пачынаецца з парога дома-музея і знаёміць з жыццём і творчым шляхам Петруся Граніта. Трэба зазначыць, што Пятрусь Граніт - гэта псеўданім зачэпіцкага паэта Івана Івашэвіча. Пару год назад куратару выстаўкі, навуковаму супрацоўніку музея Алесю Хітруну паспрыяла пабыць у Зачэпічах на свяце беларускай паэзіі, арганізаваным гарадзенскімі пісьменнікамі. У той дзень адбылося знаёмства з унучкай І. Івашэвіча Людмілай Аляксандраўнай Яновіч, якая, як






аказалася потым, жыве ў Лідзе, ды прытым, непадалёку ад дома-музея. Падчас размовы стала вядома, што ў яе захоўваецца архіў дзеда-паэта. Пазней Людміла Аляксандраўна прынесла ў Дом Валянціна Таўлая папку з каштоўным матэрыялам з архіва яе дзеда. У папцы змяшчаліся рукапісы і машынапісы вершаваных твораў, фотаздымкі, дакументы і іншае. Пазней быў атрыманы і прыжыццёвы зборнік вершаў "Сцяжынка" паэта. Адназначна, такія матэрыялы маюць месца для захоўвання ў абласных і рэспубліканскіх музеях. А тут - падзея для Дома Таўлая! Гэты матэрыял і стаў асновай у адкрыцці выстаўкі. Як быццам, ён чакаў свайго часу.

Падчас адкрыцця выстаўкі паэты-аднадумцы даведаліся пра жыццё і творчасць Петруся Граніта. Асобная ўвага была скіравана на яго працоўную дзейнасць, а менавіта пра нялёгкую працу - брукаванне дарог. Яна прымусіла яшчэ будучага паэта ўвіхацца дзеля належных сродкаў на пражытак да 1939 года - часу ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. У беларускай літаратуры такога працавітага паэта, які аж 12 гадоў клаў брук і яшчэ паспяваў пісаць добрыя вершы, больш не было! Доўгія гады ў родных мясцінах яшчэ захоўваліся брукаванкі, пакладзеныя самадзейным паэтам.

Пра выбар гэтай нялёгкай працы літаратуразнаўцу Уладзіміру Калесніку давялося яшчэ пры жыцці пагутарыць з Іванам Івашэвічам. Вось што ён піша: *"Працу брукара ён не тое што любіць, а ганарыцца ёю: цяжкая праца, не кожны вытрывае. Паспрабуй цэлы летні дзень пад спёкаю молатам каменне трушчыць. Увесь*











*потам сыдзеш, соль на кашулі выступіць, хоць бяры ды страсай саляны пыл на паперу і тою соллю страву падсольвай. Або сядзіш, дарогу мосціш, і роўная, як струна, дарога бяжыць з-пад тваіх каленяў. Хацеў бы ўстаць ды памчацца ў тыя далёкія далі, у невядомыя гарады, да якіх вядзе твая дарога. Хочаш, а не можаш, кленчыш на каленях, глядзіш у сінь-даль ды зайздросціш тым, хто па тваёй дарозе, па бруку, па каменьчыках тых, сагрэтых тваімі далонямі, імчыцца на быстрай машыне. Што там машына! Зайздросціш балаголу, які хоць і зубы сціскае на дрогкім бруку, каб языка не прыкусіць, але ўсё ж едзе, а ты - на месцы. Зайздросціш няшчаснаму пешаходу, які хоць кійком падпіраецца, але дыбае. Любіць рух дарога, і жыццё любіць рух. Усякае жывое стварэнне рухаецца, куды яго цягне, а ты мусіш сядзець як прыкаваны. Часам ахвота ісці ў нязведаныя куткі так спакушала і таміла Іванаву душу, што хацелася кінуць гэтую катаржную работу - ды заламіся ты, прынука! Але выхаваная змалку руплівасць, сорам жыць без працы, кпіны з лёгкага хлеба, сялянская цвярозасць - усё гэта трымала яго на адным месцы…".*

Адназначна, паэт прымаў удзел у вызвольным руху, пад яго уздзеяннем ён пачаў пісаць вершы, уключыўся ў культурна-асветныя справы. У гісторыі беларускай літаратуры захаваўся і той факт, што ў снежні 1933 года Пятрусь Граніт быў запрошаны нават у Вільню на з'езд Літаратурнага фронту сялянскіх і рабочых пісьменнікаў, якім кіраваў Валянцін Таўлай. У той дзень гэтыя два паэты пазнаёміліся. І сяброўства іх захавалася на доўгі час. Лідзянам напэўна вядома і пра тое, як у сакавіку 1940 года прыязджаў у Ліду кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага савета БССР Янка Купала. На той сустрэчы разам з Валянцінам Таўлаем, Нінай Тарас, Анатолем Іверсам, Пятром Глебкам быў і Пятрусь Граніт - старшыня Беліцкага сельсавета.

Кожны паэт марыць выдаць томік сваіх твораў. У зачэпіцкага паэта таксама быў падрыхтаваны зборнік вершаў "Над хваляй Нёмана", але ж з пачаткам вайны фашысцкай Германіі з Польшчай, кніжцы не суджана было выйсці ў свет. Рукапіс загінуў. Але творчасць паэта працягвалася. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ён быў сувязным партызанскай брыгады "Барацьба" і выступаў у партызанскім друку пад псеўданімам Мацей Гвозд.



З прыходам савецкай улады з 1946 па 1950 год Іван Івашэвіч вучыўся ў Наваградскім педагагічным вучылішчы. Потым працаваў настаўнікам, загадчыкам пачатковай школы ў Зачэпічах. Ёсць звесткі, што Зачэпіцкую школу ён будаваў за ўласныя грошы.

Пятрусь Граніт любіў дзяцей. Ім прысвячаў свае вершы. У 1978 годзе быў выдадзены зборнік для дзяцей "Сцяжынка". Мяркуецца, што першапачатковая назва яго мелася быць "Па дарогах жыцця".

Часта наведваўся паэт і ў рэдакцыю








лідскай газеты "Уперад", у якой друкаваліся яго вершы. Змяшчаў творы і ў абласным друку. Нізкі вершаў былі апублікаваны ў зборніках "Сцягі і паходні" (1965 г.), "Ростані волі" (1990 г.).

14 студзеня 1980 года паэта не стала. Пахаваны на вясковых могілках у Зачэпічах.

Захаваўся і дом, у якім жыў паэт. У верасні 2017 года на гэтым будынку з'явілася памятная шыльда. З таго часу родная вуліца Петруся Граніта пачала насіць яго імя. У 2018 годзе ў Зачэпічах быў урачыста адкрыты памятны знак - камень у гонар трох паэтаў Герасіма Праменя (Івана Пышко), Васіля Струменя (Аляксандра Лебедзева) і Пятруся Граніта (Івана Івашэвіча).

У Лідзе яшчэ жывуць і тыя, хто асабіста ведаў Петруся Граніта. Адзін з іх - гэта лідскі паэт Уладзімір Васько. Свой успамін "Згадка пра Івашэвіча" ён змясціў у кнізе "Лясная рапсодыя" (2013 г.), а ў зборніку "Энергія душы" - верш "Гняздо паэтаў" з нагоды адкрыцця знака-каменя траім паэтам у вёсцы Зачэпічы, што на сённяшняй Дзятлаўшчыне.

У дзень адкрыцця экспазіцыі гучалі вершы лідскіх паэтаў. Уладзімір Васько і Ірына Марук згадалі пра сустрэчы з Петрусём Гранітам. Праз матэрыял, які прадстаўлены на часовай экспазіцыі, яны змаглі прайсціся дарогай самадзейнага паэта і прасачыць тыя падзеі, праз якія прайшоў беларускі народ у той ужо гістарычны час.

У назве выстаўкі, як было заўважана, прасочваецца нялёгкая праца самадзейнага паэта, у якой ён паказаў сябе працаўніком-селянінам, які сваімі мазольнымі рукамі пракладаў брукаваную дарогу, як быццам бы паэтычным друкаваным словам - сцяжынку ў светлую будучыню, у якой кожны жыхар нашай незалежнай краіны павінен звацца беларусам.

Выстава "Брукаванае слова" будзе актуальнай да 80-годдзя з дня вызвалення беларускіх зямель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і да 85-годдзя з дня ўз'яднання Заходняй Беларусі да БССР.

***Алесь Хітрун,***
*навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея.*

# Паэтычная гасцёўня "Сучасныя паэты дзецям"

21 сакавіка ў Сусветны дзень паэзіі ў філіяле "Інтэграваная бібліятэка агр. Дворышча" для вучняў ДУА "Дварышчанская сярэдняя школа" прайшла паэтычная гасцёўня "Сучасныя паэты дзецям".








На мерапрыемстве ў выкананні дзяцей гучалі вершы беларускіх паэтаў У. Мазго, М. Маляўкі, В. Зуёнка.

***ТК "Культура Лідчыны".***



# Кнігі, якія вучаць дабрыні

У менскай дзіцячай бібліятэцы № 2 па вул. Кузьмы Чорнага адбылася сустрэча з беларускай дзіцячай пісьменніцай і журналісткай, лаўрэаткай літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі Тамарай Бунта.

Тамара Пятроўна Бунта выступіла перад вучнямі 2-га класа 73 менскай школы і пазнаёміла іх са сваёй новай кнігай, якай выйшла ў выдавецтве "Адукацыя і выхаванне" - "Далонькі з пушынкамі" і з папярэднімі выданнямі.








Т.П. Бунта - аўтар кніг апавяданняў для дзяцей - "Белое облачко", "Дзяўчынка з Вішнёвага завулка", "Чароўны кошык", "Сад з матылькамі", "Далонькі з пушынкамі", якія выходзілі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" і ў іншых.

Ілюстрацыі для ўсіх дзіцячых выданняў Тамары Пятроўны з душой і з густам у яркай колеравай гаме робіць мастачка Аксана Аракчэева.

Тамара Пятроўна пазнаёміла вучняў з апошнімі выпускамі часопіса "Вясёлка", дзе яна вядзе рубрыку "Браты нашы меншыя".

Дзеці праявілі зацікаўленасць і эрудыцыю, яны адказалі на пытанні віктарыны і атрымалі кнігі ў падарунак.

Іх цікавяць кнігі Мікалая Носава, Віктара Драгунскага, Міхася Пазнякова, яны вывучаюць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа і А.С. Пушкіна.

Тамара Пятроўна распавяла пра рэальныя гісторыі, якія леглі ў аснову новай кнігі. Так, раздзел з кнігі "Веня і Міністр" расказвае пра рэальнае здарэнне, якое адбылося ў адной з менскіх школ, дзе вучылася ўнучка Тамары Пятроўны. Жыццёвыя здарэнні, прыгоды становяцца часткай кніг.

Аповесць "Сад з матылькамі" расказвае пра лёс дзяўчынкі Дашы, якая любіць цудоўны сад, поўны дзіўных матылькоў. Усе насельнікі саду лічаць, што іх Прынцэса самая шчаслівая на свеце, бо ездзіць на вазку. Але яны не разумеюць, што яна не можа хадзіць. Адзіны казачны элемент у аповесці - гэта тое, што Даша разумее мову сваіх садовых сяброў: розных жукоў і матылькоў, якія ўрэшце і дапамогуць ёй, дадуць надзею. Казка дапамагае хлопчыкам і дзяўчынкам быць больш добразычлівымі да людзей з абмежаванымі магчымасцямі, вучыць успрымаць іх як роўных сабе. А яшчэ кніга дапамагае зразумець: кожны непрывабны вусень можа стаць прыгожым матыльком.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*





# Табе, мой горад, прысвячаю...




Сцэна старажытнага замка не ўмяшчала ўсіх ахвотнікаў выступіць на адкрыцці літаратурнай гасцёўні і творчага аб'яднання "Кромань" пры дзяржаўным гістарычна-культурным комплексе-музеі "Нясвіж". Першы намеснік дырэктара ўстановы Н.П. Жэрка падкрэсліла значнасць літаратурнага праекта ў велізарнай навуковай дзейнасці музея-запаведніка і выказала ўпэўненасць у выніковасці працы.



Прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў з розных гарадоў Беларусі блізкага і далёкага замежжа павіншавалі арганізатараў літаратурнага аб'яднання гасцёўні, даслалі на мерапрыемства прадстаўнікоў. Баранавічы і Менск, Барысаў і Гародня, Асіповічы і Гомель, Ліда, Полацак, расійскія Варонеж, Тамбоў, Масква, Сочы, Данецк пажадалі поспеху ў творчасці і даслалі свае паведамленні, відэавіншаванні.

Адкрыццё праекта адбылося пры падтрымцы СПБ. Старшыня Менскага аддзялення М.П. Пазднякоў вітаў удзельнікаў і ўручыў Ганаровую грамату З. Капусце (Кулік).







Адмысловая падзяка за выступ на вечары вядомаму палітыку, пісьменніку В.Н. Дражыну, які шмат сіл уклаў у адраджэнне гістарычнага цэнтра горада Нясвіжа.

***Паводле СМІ.***





# У в. Лесніку ўшанавалі памяць загінулых мірных жыхароў

Колькі б ні мінула гадоў з часоў Вялікай Айчыннай вайны, водгаласы яе па-ранейшаму будуць незагойнымі ранамі ў сэрцах тысяч людзей. Вось і сёння, у дзень памяці хатынскай трагедыі, мы ўспаміналі "малодшую сястру Хатыні" - лідскую вёску Леснікі.



Даведкава. У 1942 годзе фашысты спалілі в. Леснікі і жывымі больш васьмідзесяці мясцовых жыхароў. У памяць пра загінулыя ў цэнтры вёскі ўсталявана скульптурная кампазіцыя: жанчына з паніклай у жалобе галавой і хлопчык. У яе падножжа штогод праходзяць жалобныя мітынгі. Не стаў выключэннем і цяперашні год - 80-ты год вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Сярод тых, хто сабраўся на мітынг у гэтым сімвалічным месцы былі намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Генадзь Владыка, пракурор Лідскага раёна Андрэй Клышэвіч, прадстаўнікі Лідскага памежнага атрада, Ходараўскага сельвыканкама, навучэнцы Ходароўской, Тарноўскай і Мажэйкаўскай школ, супрацоўнікі раённага цэнтра культуры і народнай творчасці і яго Ходараўскага філіяла.

Наша шматпакутная беларуская зямля бачыла шмат гора і слёз у гады Вялікай Айчыннай вайны. Тысячы вёсак былі спалены разам з іх жыхарамі, сцёртыя з твару зямлі назаўжды. Трагедыя Хатыні, як і трагедыя в. Леснікі, - толькі дзве жудасныя старонкі фашысцкай акупацыі. Менавіта таму на лідскай зямлі так свята паважаюць традыцыю і збіраюцца каля помніка загінулым мясцовым жыхарам. Да прысутных на мітынгу звярнуўся намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Генадзь Владыка:





- Сёння мы тут, каб аддаць даніну памяці людзям - мірнаму насельніцтву, якое загінула ад рук тых, хто прыйшоў на нашу зямлю забіваць. Самае страшнае, што фашысты планавалі знішчэнне нашага народа, нацыі. Але сілай духу, мужнасцю нашых дзядоў, прадзедаў была заваявана перамога, мы абаранілі нашу незалежнасць. Звяртаюся да ўсіх прысутных, асабліва, да маладога пакалення: у вашых сэрцах заўсёды павінна жыць святая памяць! Пакуль мы будзем памятаць, наведваць гэтыя месцы, ускладаць кветкі, мы будзем моцныя.

12 200 вёсак на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку 14 у Лідскім раёне - такія лічбы спаленых цалкам або часткова населеных пунктаў устаноўлены падчас расследавання Генеральнай пракуратурай крымінальнай справы пра генацыд беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Іх агучыў пракурор Лідскага раёна Андрэй Клышэвіч:

- Адна з гэтых вёсак - Леснікі. Разам з ёй жывымі быў знішчаны 81 чалавек, 12 з якіх дзеці. Хатынь і Леснікі - гэта вёскі-знакі. Наша задача - захаваць памяць пра іх. Дзеці, дзе б вы ні знаходзіліся, у якой бы вёсцы ці каля якога помніка, - падыдзіце, пакланіцеся і аддайце даніну памяці загінулым людзям. І тады гэтай трагедыі больш не адбудзецца, - адрасаваў словы школьнікам пракурор.



Перад прысутнымі выступілі і іншыя ўдзельнікі мітынгу. А затым да манумента ўсклалі кветкі, ля падножжа запалілі знічы.

***Вольга Яхантава, lidanews.by.***





# Вялікдзень

Калі меркаваць па песнях і некаторых абрадах, Вялікдзень бярэ свой пачатак з цыклу вясновых паганскіх святаў. Любоў да вясны і яе дароў была вельмі вялікай ў беларусаў. Пра гэта сведчыць пропаведзі апекуна Беларусі св. Кірылы Тураўскага (XII ст.), у якіх ён у паэтычнай форме сказаў пра гэты культ.

Вясеннія абрады пачынаюцца з Дабравешчання і да сёння ў некаторых мясцовасцях дзяўчаты з пагоркаў ці з саламяных стрэх гукаюць вясну. Гуканне працягваецца да часу выхаду на палявыя вясновыя работы.

Змест вясновых песень - развітанне з зімой, гуканне вясны і пажаданне добрага лета.

*Блаславі, Божа, зіму замыкаці*
*Зіму замыкаці, вясну загукаці …*

У іншых песнях расказваецца пра ажыўленне прыроды, жаданне добрых ураджаяў і дабрабыту наогул, і ў тым ліку, каб вясна прынесла "красным дзеўкам па вяночку". У некаторых мясцовасцях дзяўчаты распальваюць вогнішча льнянымі ці канаплянымі запальнікамі і (9 сакавіка) ставяць арэлі, на якіх павінны ўсе гойдацца, таксама існуе звычай мыцця перад світанкам у лазні.

Гэта вельмі старажытныя звычаі, у якіх ачышчэнне можа мець месца праз агонь, паветра і ваду. Вясна ў песні падаецца як жывая істота (багіня), і характэрнымі з'яўляюцца песні, у якіх згадваецца і дачка вясны:

*Вясна, вясна, вясняначка,*
*Ідзе твая дачка Мар'яначка?*
*- Сядзіць у садочку,*
*Ш'е сыну сарочку!*

Нядзеля перад Вялікаднем мае назву Вербніца (ці Белая). Паводле народных уяўленняў, пасвенчаная вярба ратуе ад злых духаў і хвароб як людзей, гэтак і быдла. Таму, б'ючы вярбой, прыгаворваюць:

*Не я б'ю, вярба б'е …*
*Хвароба - у лес, на верас,*
*А здароўе - у косці …*
*Будзь здароў, як вада,*
*А расці, як вярба.*

Каб ачысціць ад злога духа, вярбой б'юць і быдла, і так рабілі яшчэ ў дахрысціянскія часы.

Падрыхтоўка да Вялікадня пачынаецца ў сераду з прыборкі хаты. На свята рыхтуюць стол, на якім павінен быць белы хлеб з чатырохканцовым крыжам з цеста, хатні сыр, кавалак сала, фарбаваныя яйкі і мяса (у залежнасці ад дастатку ў хаце). Яйкі фарбуюць адварваючы іх у шалупінні цыбулі (чырвонай). Усё, што ёсць на стале, свенціцца.

Даўней, калі з храма разносіліся гукі першай велікоднай песні, пачыналася стральба, цяпер яе замянілі феерверкі, якія выражаюць радасць Уваскрэсення. А ў паганскія часы шумам адганялі нячыстых духаў.

Пасля вяртання з храма адно з чырвоных пасвенчаных яек апускалі ў ваду, якой усе мыліся, а потым яйкам нацiралі твар, каб не хварэць увесь год. Пасля гэтага садзіліся за стол, і старэйшы ў сям'і дзяліўся з кожным з прысутных кавалкам асвечанага яйка. Потым елі іншую прыгатаваную да свята ежу і клаліся спаць.

На працягу ўсяго велікоднага тыдня на Беларусі спявалі велікодныя песні. Характэрна, што гэтых песень няма нават у ўкраінцаў, а сярод іншых славян падобныя песні маюць толькі сербы. Гэтыя песні па змесце блізкія да ўкраінскіх калядак ці шчадровак, але пераўзыходзяць апошнія па паўнаце адлюстравання ўрадлівасці і росту раслін і па падзеле ролі розных святых у гэтых працэсах.

Акрамя ўласна велікодных песень існуюць і песні пра шлюб. Спевакі - звычайна, гэта з дзясятак хлопцаў на чале якіх стаіць "пачынальнік". Ён спявае саму песню, а ўсе астатнія хлопцы спяваюць толькі прыпевы. Таксама ў гэтым можа прымаць удзел скрыпач і "механоша", які носіць мяшок ў атрыманымі падарункамі. Змест песень складаецца з пажаданняў і хвалы гаспадара, гаспадыні і іх дзяцей, пра іх прыгажосць і дабрыню. Як і калядаванне, гэта вельмі старажытны абрад.

Да асаблівасцяў беларусаў належаць і карагоды. Цяжка сёння сказаць, што азначае гэтае слова, якое мы сустракаем ў старым беларускім пісьменстве яшчэ ў XVI ст. - у бібліі Скарыны і выдадзеным у Нясвіжы кальвінскім катэхізісе. Карагоды спяваюць пераважна дзяўчаты.

Велікодная серада мае назву "градавая" і святкуецца, каб засцерагчыся ад граду. Чацвер велікоднага тыдня мае назву "Вялікдзень мёртвых". У гэты дзень людзі наведваюць магілы сваіх родных, прыносяць да іх яйкі і іншую ежу якую спажываць на месцы, хаця сапраўдным днём памерлых лічацца Дзяды на Радуніцу (панядзелак пасля праваднoй нядзелі).

Велікоднымі забавамі моладзі можна лічыць качанне яек і іх біццё - выйгрывае той, чыё яйка мацнейшае.

*Ostoja. "Wialikdzien". Bialoruskie zwyczaje wielkanocne // Kurjer Wilenski. 1935. № 109.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

**Вандалін Шукевіч**

# Спосабы фарбавання яек у Лідскім павеце[1]

Як дадатак да артыкула сп. Антаневіча "Пісанкі ў Польшчы", надрукаванага ў №12 "Ziemi", падаю спосабы фарбавання велікодных яек, якімі некалі карысталіся людзі ў Лідскім павеце, гэтых спосабаў я не знайшоў у артыкуле сп. А.

1) Каб пафарбаваць яйкі ў зялёны колер, іх варылі ў свежасабранай руні жыта.

2) Блакітны колер атрымліваўся, калі яйкі варылі ў кветках васілька (centaurea cyanus). Для гэтага збіралі і сушылі самі пялёсткі кветак.

3) Чырвоны колер надаюць апілкі дрэва фернамбук, ці ажынавай цезальпініі (caesalpinia echinata). Ва ўсе фарбы дадаюць трохі галыну.

Са згаданых сп. А., нашы людзі выкарыстоўваюць цыбульнае шалупінне. У наш час усё часцей выкарыстоўваюцца анілінавыя фарбавальнікі, яны забяспечваюць лепшыя колеры, і таму ад традыцыйных паступова адмаўляюцца.

Пісанкі ў нашых краях цалкам страчаны. Некалькі дзесяцігоддзяў таму яшчэ быў вядомы спосаб абводкі малюнка воскам, у выніку якога ён заставаўся белым на каляровым фоне. Таксама на ўжо пафарбаваным яйку, вострым інструментам выдрапвалі розныя ўзоры.

Са святкаваннем Вялікадня ў нашым народзе сцісла злучаны звычай "качаць" яйкі. Час, адведзены на гэтую забаву, абмежаваны з першага дня Вялікадня да праводнай нядзелі, уключна. Звычайна вясковая моладзь, а часам і больш старэйшыя людзі, збіраюцца ў купкі, ставяць на чыста вымеценым роўным месцы з невялікім нахілам драўлянае карыта, адкрытае з абодвух канцоў і строга па-чарзе коцяць па карыце вараныя і фарбаваныя яйкі. Той, чыё яйка патрапіць у другое, выйграе і забярэ тое яйка, у якое патрапіў. Таксама часам гуляюць т. зв. "банк". Гульня заснаваная на тым, што на пэўнай адлегласці перад вусцем карыта ў адну лінію кожны ўдзельнік ставіць сваё яйка на адлегласці прыкладна 1/2 локця адно ад аднаго, а потым, па-чарзе коцяць другія яйкі па карыце. Той, хто сваім яйкам трапляе ў любое з яек у шэрагу, забірае ўсе выстаўленыя яйкі. Калі не патрапіць, дык аддае кожнаму ўдзельніку па яйку. Яйкі, якія добра падыходзяць для такога качання, тыя што маюць форму бліжэйшую да сферычнай, лепшыя яйкі называюцца "катуны".

Гуляюць таксама і ў біццё яйкамі. Папярэдне яйкі правяраюць праз лёгкія ўдары па сваіх зубах. Чыё яйка такім чынам прайшло праверку, тое разаб'е больш яек і пераможа.

Вось, што я хацеў паведаміць пра велікодныя яйкі.

Сярод іншых гульняў, якія мясцовыя жыхары практыкавалі толькі на Вялікдзень, адзначу "Скачкі па дошцы".

Звычайна ў гэтай гульні ўдзельнічаюць дзяўчаты, радзей хлопцы. Гульня заключаецца ў тым, што на драўляны брусок кладуць доўгую дошку, затым дзве дзяўчыны становяцца на яе два канцы і па-чарзе скачуць, г. зн. калі адна падае на канец дошкі, другая падкідваецца ўверх і адначасова сама падскоквае, павялічваючы тым самым вышыню свайго падскоку.

Гэтая гульня, адбываецца штогод толькі на Вялікдзень, гэта наводзіць на думку аб тым, што яна павінна была раней мець іншы, магчыма, нават сімвалічны, сэнс, звязаны з ідэяй абуджэння прыроды ад зімовай летаргіі. Шмат такіх перажыткаў яшчэ жыве ў нашым народзе, але трэба пасяшацца з іх зборам, бо яны хутка назаўсёды страцяцца. Напрыклад, распаўсюджаная некалькі дзесяцігоддзяў таму гульня "Скачкі па дошцы" перастала прывабліваць дзяўчат - яны лічаць за лепшае танчыць з хлопцамі пад бадзёрую музыку, чым скакаць з рызыкай упасці ці атрымаць удар дошкай па нагах. Мэта такіх скачкоў сцерлася з памяці, некаторы час гэтая звычка заставалася механічнай і выконвалася толькі як рытуал, і нарэшце, саступіла месца новым забавам.

***Ад перакладчыка:*** *Яшчэ нават мой сын "качаў" яйкі на Вялікдзень недзе ў першай палове 1990-х гг.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

[1] Szukiewicz Wandalin. Sposoby farbowania pisanek w pow. Lidzkim // Ziemia. Tygodnik Krajoznawczy Ilustrowany. 1913. № 19. S. 314-315.



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## "Маленькія" і вялікія трагедыі: Рохлін, Саўчанка, Саўчанка; праблемы індзейскага друку і ён у Гомелі

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-12 (105-116) за 2024 г.)*

Няпоўны спіс індзейскай і індзеяністкай перыёдыкі і тэматычных альманахаў у Бібліятэцы Беларуска-індзейскага таварыства (па запісах на картках - мы выкарысталі імідж-каталог перыёдыкі ў ББІТ з некалькімі дабаўленнямі):

Иктоми

Томагавк (Сыктывкар)

America Indigena (Instituto Indigenista Interamericano)

American Indian and Alaska Native Mental Health Research (Journal of the National Center [for])

American Indian Culture and Research Journal (American Indian Studies Center, University of California, Los Angeles)

Artifacts (American Indian Archeological Institute)

Bush News (Dedicated to excellence in Aboriginal Forestry and Resource Management)

Centre for Indigenous Theatre (Newsletter, Toronto)

CIRI Shareholder Update (Cook Inlet Region, Inc.)

Cross and Feather News (Tekakwitha Conference National Center )

European Review of Native American Studies

First Perspective (Canada's Source for Aboriginal News and Events)

Fort Apache Scout

Full Circle (Toronto)

Indian Affairs (Newsletter of the Association on American Indian Affairs)

Indian Friendship Centre Newsletter (Sault Ste. Marie, Ontario)

Indian Rights Human Rights (Indian Lawe Resource Center)

Indian Youth of America (Sioux City, IA)

Insight (Newsletter, Dakota Indian Foundation)

Intertribal (Serving Oklahoma's Indian Country)

Journal of Indigenous Studies (Gabriel Dumont Instutute of Native Studies and Applied Research)

Kayas Ochi (Biuletyn informacyjny Sztumskiego Kola Zainteresowan Kultura Indian "Stowarzyszenie Zolwi")

Lac du Flambeau News




***Envelope. NAJA News and Medium Rare were received from Native American Journalists Association. Postmark Minneapolis, Minnesota 1998-04-02***




***Envelope. Native Peoples. Postmark Phoenix, Arizona 2003-09-04***




***Envelope. 3 issues of Journal of Indigenous Studies were received from Gabriel Dumont Institute. Postmark Saskatoon, Saskatchewan 1995-02-21***






*Envelope. Turtle Quarterly. Postmark Niagara Falls, New York 1993-08-09*

Lakota Times

Medium Rare (Native American Journalists Association)

Museum Notes (Iroquois Indian Muzeum)

NAJA News (Native American Journalists Association)

NARF Dollars & Sense (Native American Rights Fund ; A Publication Especially Prepared for NARF Donors))

NARF Legal Review (Native American Rights Fund)

National Indian Education Association Newsletter

Native Journal (Magazine for Native Communicators, Native Journalists Association)

Native Peoples (Phoenix, AZ)

Native Press (Yellowknife, NWT)

Nativebeat (The Beat of a Different Drum)

Navajo Nation Today

Netop (News from the American Indian Archeological Institute, Washington, CT)

New Bread (Saskatchewan's Largest Monthly Newspaper)

News from Indian Country

Oka Hey! (Revista de informacion sobre la actualidad de los indios americanos, Se-Ven Sioux Kolektibo, Pamplona, Spain)

OMAA: The Voice of Ontario's Metis and Aboriginal Peoples

Smoke Signals (Sioux City American Indian Center)

Spirit of Crazy Horse (Newsletter of the Leonard Peltier Defense Committee)

Spiritual Unity of Tribes Gathering (The Gathering Newsletter)

Steel Crown (North American Araucanian Royalist Society)

Suport Mutu (Castellon, Spain)

Tawacin (Poland)

Treaty Council News (International Indian Treaty Council)

Tundra Times (Anchorage, AK)

Turtle Quarterly (Niagara Falls, NY)

Unidad Indigena (Organizacion Nacional Indigena de Colombia. Unidad, Tierra, Cultura y Autonomia)

UNITY News (United National Indian Tribal Youth)

Windspeaker (Canada's National Aboriginal News Publication)



SMOKE SIGNALS

SIOUX CITY AMERICAN INDIAN CENTER The New Spirit
619 6th Street
Sioux City, Iowa 51101

VOLUME II APRIL, 1990 NUMBER 2

YOUTH PROGRAM

The youth activities program has been underway since March 1st. We are quite pleased with the turnout. So far approximately 75 young people participate every week. Anyone who is interested in enrolling in the program is certainly welcome. Forms can be obtained at the center. All children must have the written consent of their parents.

Young people who attend the activities and/or lessons at the U.S. Swim & Sports Club must report in at the Indian Center prior to going downstairs. Failure to do so will result in not being admitted. When checking in at the center, each child will be issued a pass. This way, we can keep track of who and how many are in attendance.

SOFTBALL TEAMS ORGANIZED

Softball teams are being organized and sponsored by the SCAIC as part of the Siouxland Youth Athletics League. There will be no charge to register. However, you may be asked to participate in fundraisers (e.g., raffle tickets, bake sales, etc).

The team categories are:
Boys Fast-Pitch Softball, ages 11 & 12
Boys Fast-Pitch Softball, ages 13 & 15
Girls Fast Pitch Softball, ages 9 & 10

Registration deadline is April 7, 1990--No exceptions! If you are interested contact Fred LeMere at 279-6754 or Jeanie Archambeau at 258-8126. All enrollees must have parental consent.

*Smoke Signals (Sioux City, Iowa) 1990 April*



A.I.D. CENTER
206 - 6TH STREET
SIOUX CITY, IA 51101

RECEIVED APR 1990

COMMUNITY HEALTH PROGRAM FOR ELDERS

Two nursing students from Briar Cliff College will be working with elderly persons who attend the congregate meal at noon. This will include assessing the needs of the group and providing health information and answering questions. The students will be here each Tuesday at noon for a seven week period.

Plans are being made for a social and recreational program for seniors. Activities such as board games, cards or movies will be offered. One day a week will be set aside after the noon meal. Any suggestions? Let us know!

NUTRITION EDUCATION

The expanded Food and Nutrition Education Program (EFNEP) ended March 21st. We averaged 5 participants per session. We want to thank the participants for signing up and taking part:

| | |
|---|---|
| Alice Archambeau | Michelle Tapia |
| Foye Rouillard | Stevie Rouillard |
| Dawn Rouillard | Sheila Hall |

Also, a special thanks to Aggie Gagnon from the Extension service for conducting the classes.

*Smoke Signals 1990 April*





*Алесь Сімакоў*

**ПРАБЛЕМЫ ІНДЗЕЙСКАГА ДРУКУ**

Асацыяцыя індзейскіх журналістаў, Боўлдэр, Каларада, паведамляе аб цяжкім фінансавым становішчы "карэнных" газет. Справа даходзіць да іх закрыцця. Спыняюць існаванне найстарэйшыя выданні Канады і ЗША - анкарыджская "Тундра таймс" і "Кайнай ньюс" [Kainai News], якая выходзіць у Стэндофе [Stand Off], Альберта. Не мелі поспеху дзве новыя ініцыятывы - "Наваха нэйшн тудэй" і "Энтрэпрайз эяпаха" [Enterprise Eyapaha], пачатыя адпаведна ў лютым і верасні 1991 года для патрэб народаў наваха і аглала сіў.

Марк Трахант, прэзідэнт Асацыяцыі і "незалежны журналіст" пасля няўдачы з "Наваха нэйшн тудэй", шашон-банак, які заклікаў гэтых паўднёвых атапаскаў "ісці за Саветамі" ў прыватызацыі на тэрыторыі найбуйнейшай рэзервацыі, не змог вытрымаць канкурэнцыі з больш таннай племяннной "Наваха таймс"; новая незалежная газета не дабірала рэкламы, рабілася стратнай, зменшыла тыраж і нарэшце спыніла публікацыю 15 студзеня.

Выдавец газеты аглала сіў, Джон Стыл [John Steele], верагодна, проста не разлічыў свае сілы: "Мы стартавалі занадта хутка". Але спадзяецца пачаць яшчэ раз, выдаючы "орган" рэзервацыйнай грамады Пайн-Рыдж, Паўднёвая Дакота.

"Кайнай ньюс", якая 23 гады служыла чарнаногім і іншым карэнным групам у Альберце, стала ахвярай дзяржаўнай палітыкі: урад Канады зменшыў датацыі індзейскім сродкам масавай інфармацыі на 50%. Рэдактар,



WISCONSIN INDIAN GAMING
Special Gaming Compact Edition

Special Edition — February 1998

United we stand...

Photo by Ed Williams

Wisconsin tribal leaders have gathered together numerous times to obtain the same goal, Indian gaming, and to retain their sovereignty. Memorandum of Understandings have unified the 11 Wisconsin tribes. Although the faces have changed throughout the years, the issues remain the same.

**Thompson says pact on gaming is closer**

*Progress of talks on shared revenues called positive step*

By Scott Hildebrand

The state and Wisconsin Indian tribes are making progress in negotiations over state-tribal gaming agreements, Gov. Tommy Thompson said Wednesday.

In a meeting the Press-Gazette Editorial Board, the Republican governor said the state and tribes have had "constructive" meetings during the past 10 days.

See Page 8 — Closer

**Interior Department proposes plan for intervening in disputes**

*Interior proposal would impose rules for Indian tribal casinos*

MILWAUKEE (AP) - Risking a fight with Congress and several governors, the Interior Department proposed last Friday to step into disputes between tribes and states over the size and scope of reservation gambling operations.

However, these plans by the U.S. Interior Department to intervene in casino disputes may be of no benefit to Wisconsin tribes, a spokesman for Gov. Tommy Thompson says.

The department said it might step into disagreements involving the scope of commercial gambling on Indian reservations.

"This is good news. The states will finally have to live up to their obligations under federal law to negotiate with tribal governments for Indian gambling," said Ron Allen, president of the National Congress of American Indians.

According to a report in the Milwaukee Journal, the Interior's proposal "would impose rules for operating casinos" if the department finds "that a state has not negotiated fairly with a tribe."

Secretary of the Department of Interior Bruce Babbitt oversees Indian tribal issues on the federal level. Federal law, the Indian Gaming Regulatory Act allows for states and tribes to negotiate gaming compacts in good faith.

Compacts under which Wisconsin Indians operate 17 casinos begin expiring in a few months. To get new ones,

Babbitt — Thompson

Thompson has told tribes they must give the state a share of their casino profits.

Some tribes have considered opening more casinos or expanding their existing operations. Thompson says he wants no additional gambling.

Tribes that want to offer more gambling than their state allows have been without recourse since the U.S. Supreme court ruled in 1996 that states had immunity against tribal lawsuits.

Congress has barred the Interior Department from intervening in disputes during the 1998 budget year that ends Sept. 30.

"We don't want to be in the position of arbitrating these disputes," department lawyer Robert Anderson said in Washington, D.C. "States that want to see the secretary of interior stay out of this can do so by negotiating compacts."

Without a threat of department intervention, states can effectively veto casinos, Anderson, a member of Minnesota's Bois Forte tribe, said.

"We don't see this as moving the tribes any closer to getting help out of Washington," Thompson chief of staff John Matthews said. "Ultimately this is a state issue."

Deborah Doxtator, chairman of the Oneida tribe that operates a casino-motel complex near Green Bay, said the department's proposal "lends us a remedy if the governor does not negotiate in good faith."

Besides wanting casino money for the state, Thompson's list of items for compact negotiations includes off-reservation claims to natural resources by some tribes, and an argument that they have rights to enact antipollution rules.

Talks stalled Oct. 23 but have resumed.

"We've had some very good discussions and progress," Doxtator said.

Thompson has said he might notify tribes in February of non-renewal of contracts.

***Wisconsin Indian Gaming, Special Gaming Compact Edition. Special Edition, Feb. 1998***

IC БIТ 8.9.1991 - I

Ардын БжэзIнскI, Iндыянка-менамIнI з Грын-Бэй, ВIсконсIн, якая вучыцца ва ўнIверсIтэце Мантаны, прайшла курс лабараторнага I палявога навучання па спецыяльнай праграме даследавання воднага асяроддзя ў Цэнтры вывучэння ВялIкIх Азер пры УнIверсIтэце ВIсконсIна, МIлуокI. ("Ньюс фром Iндыян кантры" (Хэйвард, ВIсконсIн, другая палова лютага 1991). У гэтым жа нумары газеты згадваецца Лора БжэзIнскI, сын якой, Рычард, служыў у Саудаўскай АравII ў час вайны (паводле "КалIхвIсакс", выдання ВIсканс1нскага племенI Iндзейцаў анейда, Анайда, ВIсконсIн).

IC БIТ 9.9.1991 -2

2.9.1991 ад АсацыяцыI IндзейскIх журналIстаў атрыманы: вIзIтная картка I лIст выканаўчага дырэктара Л.Шэпарда, аркуш з iнфармацыяй пра асацыяцыю, яе "ньюслетэр" "Мэдыум рэзр" (лета 1991), газеты: "Лакота таймс" (2 лIпеня 1991), "Наваха нэйшн тудэй" (31 лIпеня-6 жнIўня 1991), "Ньюс фром Iндыян кантры" (другая палова лютага 1991), "НэйтыўбIт" (сакавIк 1991), "УIндспIкер" (спецыяльны дадатак "Паувау кантры", 8 чэрвеня 1990), часопIсы: "Тэртл" (зIма 1990), "Нунавут" (зIма 1990), спецыяльнае выданне праграмы сацыяльных даследаванняў "НьюсуIк фокус" "Карэнныя амэрыканцы: мы тут", календар Народа наваха ('91-'92), а таксама матэрыял "Iндзейскай службы навiн" (Нэйтыў амэрыкан ньюс сэрвIс) за 20.7.1991.

IC БIТ10?9.1991 - 2

Iнфармацыя для для антываеннай I антыармейскай структуры БIТ "МIжнародны цэнтр па гIсторыI партызанскага руху". У 13.30 сення па Бел. радые запрошаны ў студыю экстрасенс Барысенак (для развенчвання "гомсавецIкуса") выказаў думку, што БеларусI не патрэбна армIя. МIлIцыя, палIцыя, але не армIя, не трэба нI абараняцца (радыяцыйная Беларусь нIкому не патрэбна), нI нападаць.

IC БIТ 10.9.1991 -2

З нагоды артыкула Юрася ЗалоскI "Час новых Iдэй" ("ЛIМ", 6.9.91), дзе "нееўрапейская альтэрнатыва" БIТ ("канцэпцыя" А.СIмакова) ацэньваецца як "тварэнне па-за этналагIчным грунтам", а само таварыства - як "экзатычная секта", член Савета БIТ М.Шукінаў выказаўся наступным чынам (лIст ад 9.9.91, №8): "Поўнасцю згодзен з Юрасем Залоскам /77./ якI справядлIва назваў БIТ "экзатычнай сектай". Усе з-за таго, што ў цябе /А.СIмакова/ апошнIм часам назIраецца ўхIл у бок стварэння накшталт "плямёнаў-арганIзацый". Гэта будзе нейкая дзяржава цI секта унутры бел. Iндзейскага руху. Я супраць гэтага. Неабходна займацца культурнымI праблемамI ў выглядзе Iх даследавання, распаўсюджвання IнфармацыI, папулярызацыI культуры Iндзейцаў. А ўсякага роду арганIзацыйныя ўтварэннI, якIя ты прапаноўваеш, вельмI мяжуюць з палIтыкай!

IC БIТ 10.9.1991 -3

У друк пасылаецца наступная Iнфармацыя: ЖурналIсты, якIя жадаюць асвятляць працэс беларуска-Iндзейскага збліжэння I мерапрыемствы ў сувязI з 500-годдзем "адкрыцця" АмерыкI, а таксама супрацоўнIчаць з Iндзейскай прэсай, могуць акрэдытавацца ў агенцтве "Iнфармацыйная служба Беларуска-Iндзейскага таварыства".

IC БIТ 10.9.1991 - 4

Сення адпраўлены лIст у газету "Лакота таймс", якая выходзIць з 1981 г. (цяпер - у РапIд-СIцI, Паўднёвая Дакота) для Iндзейцаў сIў I Iндзейцаў усей краIны I выпIсваецца ў 14 замежных краIнах.

***Кароткія паведамленні ІС БІТ 1991-09-08. NAJA's gifts, Lakota Times, News from Indian Country, Indian Brzezinskis from Wisconsin, etc.***

Том Расэл [Tom Russel], і 4 чалавекі са штату апошнія месяцы працавалі без аплаты.

Найбольш сумная сітуацыя з "Тундра таймс" - знакамітай эскімоска-індзейскай і адзінай агульнааляскінскай газетай, вядомай і ў СССР пасля пачатку яе выдання ў 1962 г. Хоць "голас карэннай Аляскі" крытыкаваўся многімі за "вельмі кансерватыўную рэдакцыйную філасофію", перанасычанасць "флафам" і недастатковую ўвагу да "спрэчных, палітычных пытанняў", толькі адзін чалавек запатрабаваў грошы назад, калі газета паведаміла аб іх вяртанні падпісчыкам; мноства лістоў даказвае неабходнасць "Тундра таймс". Яна падтрымліваецца карпарацыямі карэнных аляскінцаў, але лёс яе - у руках акцыянераў: альбо далучыцца да адной з "газетных груп", альбо атрымаць статус "некамерцыйнага" выдання.

*(Пераклад з рускай мовы (рускамоўная версія датуецца 25.02.1992), год першай публікацыі ў арыгінале - 1993 ("альманах российской индеанистики" "Томагавк", Сыктыўкар).*

**Літ.:**

*2656 Симаков А. Проблемы индейской печати // Томагавк. 1993. № 5. С. [60-61]. ("/подготовил А. Симаков /г. Гомель/".)*

*11935 Симаков А. Проблемы индейской печати /*

/ *Томагавк (Сыктывкар). 1993. № 5. С. [60-61]. ["/ подготовил А. Симаков /г. Гомель/". Факсимильное издание, Ярославль, 2021.)*

**РОХЛІН Джэкаб** (Jacob "Jake" (Jankel, Yacob) Rochlin) - 20-акравы ўчастак зямлі ў трох мілях ад Нагалеса, на мяжы паміж Арызонай і Санорай, - чым не адэкватная замена Шчадрыну, вялікаму і да знішчэння ў 1942 г. яўрэйскага насельніцтва пераважна яўрэйскаму паселішчу ў Менскай губерні (было вёскай, мястэчкам у розных паветах (Рэчыцкім, затым Бабруйскім) і раёнах, цяпер аграгарадок у Жлобінскім раёне). Прыехалі нашы Рохліны ў ЗША і Нагалес у 1917 г., і якраз дом на згаданым участку - месца нараджэння іх малодшага сына Фрэда, якому сям'я найбольш абавязаная сваёй вядомасцю.

"Са Шчадрына ў Арызону" - так называецца гэтая гісторыя.

Ганна (Шапіра) (1882-1978) і Джэкаб (Джэйк) (1882-1952) Рохліны - цікавая пара, Джэйк нават быў "масонам у Нагалесе".

З усіх, з кім маглі сустракацца на вуліцах, а можа і размаўляць, нашу ўвагу прыцягнула перш за ўсё актрыса, якая нарадзілася ў Нагалесе ў 1916 г., незадоўга да прыезду мужа і жонкі Рохліных. Мавіта Кастанеда (Movita Castaneda) - сапраўдная зорка кіно. Яна другая жонка Марлана Бранда і маці двух дзяцей з прозвішчам Бранда (іх шлюб быў скасаваны пасля таго, як стала вядома, што папярэдні шлюб Мавіты яшчэ "актыўны"). Яна мексіканскага паходжання і выконвала ролі "экзатычных жанчын", у т.л., у многіх фільмах, дзеянне якіх адбываецца на Паўднёвым Захадзе і ў цэлым у зоне " мексіканскай гістарычнай адказнасці". У прыватнасці, яна з'явілася ў фільме "Форт-Апачы" (1948, як Гуадалупэ, кухарка героя Генры Фонда), у "Засадзе апачаў" (1955, Расіта), у "Гаспадары павозкі" (1950, прадстаўляе навахаў) і "Загадкавым дэсперада" (1949, Луіса).

Гэта ў некаторай ступені перадае атмасферу, дзе жылі шчадрынскія Рохліны і іх дзеці.

Фрэд Рохлін (1923-2002) сабраў вялікую калекцыю, якая апісаная на архіўным сайце Арызоны (http://www.azarchivesonline.org/xtf/view?docId=ead/uoa/UAMS401.xml), - гэта ў значнай ступені Western Jewish Americana. Ён быў архітэктарам, мастаком, фатографам і, *"as a second career, monologist and author"*. Калі Фрэд пасля ўдзелу ў ДСВ у Еўропе вучыўся ў Каліфарнійскім універсітэце ў Берклі, ён сустрэў Гарыет, якая потым стала пані Рохлін (Harriet Rochlin) і якая ў выніку ўнесла вялікі ўклад у вывучэнне ранняй гісторыі яўрэяў на Американ-

Harochlin@aol.com
26 августа 2004 г., 18:51:36 (Thu, 26 Aug 2004 11:51:36 EDT)

Dear Alex Simakou:

I was delighted to receive your e-mail on Belarussian-American Indian relationships. This is indeed becoming a small world. I live in Los Angeles California. Where do you live? When you say you have studied Belarusian-American Indian relationships in the 1980s-1990s, could you possibly mean 1880s-1890s? I'm a historian and deal with Jewish life in the Spanish, Mexican, and American West. About ten years I gathered a box full of information about Jewish-Indian relationships. Maybe we could exchange information.

One Rochlin offspring married and had two children with a man who was part Indian, Yaqui, I believe.but I'm not entirely sure. I can think of no other member of the family who married, or had business or professional experience with Southwestern Indians. Except possibly Gail Schlachman Rochlin, Ph.D., a hearing and speech specialist, who tests schoolchildren throughout Arizona, including Indian reservations.

Are you an anthropologist? Have you written on the subject? Tell me more.
Thanks for contacting me.

Harriet Rochlin
*Pioneer Jews: A New Life in the Far West*
"Social history at its best."
*San Francisco Chronicle*

*The First Lady of Dos Cacahuates*
Enough period charm, crackling storytelling, and priceless details to satisfy devotees of both wild west lore and Jewish history."
*Publishers Weekly*

***E-mail from Harriet Rochlin 2004-08-26 "One Rochlin offspring married and had two children with a man who was part Indian, Yaqui, I believe"; "Gail Schlachman Rochlin, Ph.D., a hearing and speech specialist, who tests schoolchildren throughout Arizona, including Indian reservations"***

American Association of Teachers of Slavic and East European Languages
Modern Languages Bldg, Rm. 342
University of Arizona, Tucson, AZ 85721

18 декабря 1990г.
Гомель

Уважаемые господа,

Пишу по-русски, так как полагаю, что для большинства членов Американской ассоциации учителей славянских и восточноевропейских языков прочитать русский текст не составит проблемы.

Я являюсь временным исполнительным секретарем Белорусско-индейского общества и использую свое положение, чтобы активизировать "юго-западное" направление в наших контактах, ибо давно интересуюсь историей и современной жизнью в Аризоне и Нью-Мексико, а также в соседних штатах, включая и мексиканские.

Особенно меня интересует, естественно, индейское население, а кроме того - славяне и люди из Восточной Европы - от самых первых из них на Юго-Западе до наших современников.

Специальные исследования, отражающие историю югославов, поляков, евреев и представителей некоторых других народов в юго-западной части Соединенных Штатов, все еще малодоступные у нас в Союзе, дают некоторое представление об адаптации этих групп и их вкладе в развитие региона. Белорусы - наименее активная славянская группа, и о них имеются лишь крайне редкие упоминания.

Вы, очевидно, согласитесь с последним утверждением, учитывая Ваш собственный опыт. Кажется почти невероятным преподавание в США белорусского языка, хотя лидеры немногочисленной этнически "самосознающей" белорусской общины, безусловно, озабочены таким положением.

Я очень надеюсь, что кто-либо из членов Вашей ассоциации (или сотрудников университета) изъявит желание поддерживать переписку с нами.

Я также выражаю надежду, что Вы найдете возможным сообщить мне некоторые координаты для контактов, связанных с разработкой проблематики славистической Southwesternology, "перекрестного" краеведения.

Возможно, среди владеющих русским и другими славянскими языками в США есть лица индейского происхождения? Это было бы воспринято у нас с огромным энтузиазмом.

Буду Вам чрезвычайно признателен за ответ.

Не забывайте, что в славянском мире существуем и мы, белорусы.

С наилучшими пожеланиями

Алесь Симаков
СССР, БССР, 246046, Гомель,

Ales Simakou
Byelorussian-American Indian Society
, Gomel,
246049, BSSR, USSR

***American Association of Teachers of Slavic and East European Languages (Tucson, Arizona) 1990-12-18. Fred Rochlin "briefly attended the University of Arizona, Tucson. In December, 1942, he enlisted in the U.S. Army Air Corps, and was stationed in Italy with 456th Bombardment Group"***

